STOWARZYSZENIE MUZEUM
I OŚRODEK KULTURY BIAŁORUSKIEJ
w HAJNÓWCE
17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42
tel. (085) 682 28 89
BIBLIOTEKA
Nr inwent.

# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 27 (2221)

4 ліпеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.






**ПРАЦЯГВАЕМ ДРУКАВАЦЬ РАМАН ВАЛЬТАРА**

("Роджаныя пад Сатурнам")

Стар. 4

**У НАШЫХ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ**

("Сто сустрэч за акіянам")

Стар. 5

**КУДЫ ТОЛЬКІ ЛЁС НЕ ЗАКІДВАЎ БЕЛАРУСАЎ!**

("Маладзечна — Мінск — Урал, а далей — усюды")

Стар. 6

**ЭЛІЗА АЖЭШКА ЯШЧЭ ПРЫ ЖЫЦЦІ БЫЛА ЗАЛІЧАНА ДА КЛАСІКАЎ**

("Каралева жывога слова і пакутлівай праўды")

Стар. 7

### ЗА ШТО ПАЗБАВІЛІ ЗВАННЯ ГЕРОЯ САВЕЦКАГА САЮЗА КАМБАТА САПРЫКІНА

## ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ СМЕРЦІ

**Указ аб наданні яму звання Героя Савецкага Саюза выйшаў 3 ліпеня 1944 года. У гэты ж дзень была вызвалена наша сталіца Мінск. Пазней 3-га ліпеня сталі адзначаць як Дзень вызвалення ўсёй Беларусі. На плошчы Перамогі, дзе ўзвышаецца помнік-абеліск у гонар тых, хто змагаўся за свабоду нашай зямлі і народа і праліў сваю кроў, ёсць мемарыяльная зала. Дакладней — пад самой плошчай. Вянок славы палае знутры полымем неўміручасці перад паўкруглай бронзавай сцяной, на якой адліты прозвішчы ўсіх, хто Залатую Зорку Героя Савецкага Саюза атрымаў за вызваленне Беларусі ад нямецкіх захопнікаў. Сярод іх і ён — Сапрыкін Уладзімір Аляксеевіч.**

— Уладзімір Аляксеевіч, дык як гэта сталася: толькі праз 35 гадоў даведаліся, што вы — Герой Савецкага Саюза?

Як сёння памятаю тое маё пытанне, звернутае да Уладзіміра Сапрыкіна. Было гэта ў Таронта. У Канадзе стаяла прыгожая пара "індзейскага", а па-нашаму, бабінага лета. У невялікім, але ўтульным дамку Сапрыкіна сабралася наша беларуская дэлегацыя. За сяброўскай чаркай з эмацыянальнымі ўсплёскамі то плыла роўна, то кіпела наша бяседа. Нас дзівіла тое, што мы бачым вось гэтага чалавека, мабыць, адзінага Героя Савецкага Саюза, які жыве недзе аж у Канадзе, якога з намі родніць і яднае подзвіг, здзейснены ім на нашай зямлі. Сапрыкін жа не мог даць веры, што ён сапраўды Герой, што ў Мінску да Дня Перамогі і Дня вызвалення Беларусі на алеі Герояў, якая выстройвалася ў тыя гады ад вуліцы Янкі Купалы да плошчы Перамогі (мемарыяльная зала з'явілася пазней, пасля рэканструкцыі плошчы), выстаўляецца і яго партрэт, што мы не цураемся яго, не глядзім як на здрадніка толькі за тое, што ён жыве не на Радзіме, а за мяжой.

Дык вось пра сам подзвіг, як ён апісаны ў рапарце камандавання фронта ва ўзнагародным лісце на прадстаўленне Сапрыкіна да звання Героя Савецкага Саюза:

"...Кожны дзень праціўнік рабіў па 10—12 контратак. Капітан Сапрыкін на працягу трох дзён баёў гераічна стрымліваў націск да батальёна пяхоты пра-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*РЭЗКАЯ АЦЭНКА*

## ЗАМАХ НА СУВЕРЭНІТЭТ

**"Эканамічным расстрэлам" рэспублікі назваў Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч пастанову Кабінета міністраў СССР "Аб арганізацыйных мерах па распрацоўцы вытворчых праграм і прагнозаў сацыяльна-эканамічнага развіцця прадпрыемстваў, рэгіёнаў, рэспублік і Саюза ССР на 1992 год ва ўмовах фарміравання рынку".**

**У гэтай пастанове, па словах В. Кебіча, няма ніводнага пункта, які б не закранаў у большай ці меншай ступені эканамічнай незалежнасці Беларусі. Асабліва балюча ўдарыць па спажыўцах усіх узроўняў рэзкае зніжэнне дзяржзаказу для прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання. Гэта прывядзе, на думку Старшыні СМ БССР, да некантралюемага росту аптовых і рознічных цэн.**

**Нанясе непапраўны ўрон рэспубліканскаму бюджэту і прадугледжаная пастановай падатковая палітыка цэнтра. Асаблівым цяжарам ляжа яна на праграмы па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.**

**В. Кебіч звярнуўся да Вярхоўнага Савета БССР з прапановай прыняць пастанову аб перадачы ў юрысдыкцыю рэспублікі ўсіх прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання, што знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі.**

*БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ*

## ДОЎГАЧАКАНЫ ЗАГАД

**Кіраўніцтва справамі Савета Міністраў БССР выдала загад, у якім вызначаны дадатковыя меры па рэалізацыі ў апараце Савета Міністраў рэспублікі Закона аб мовах у Беларускай ССР і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР. Загад прадугледжвае перш за ўсё, у мэтах паглыблення ведання беларускай мовы для супрацоўнікаў урадавага апарату стварыць спецыяльныя курсы, якія пачнуць сваю работу з 1 верасня бягучага года. Дарэчы, фарміраванне навучальных груп ажыццяўляецца дыферэнцыравана, з улікам узроўню падрыхтоўкі слухачоў. Намечана перавесці ў бліжэйшы час на беларускую мову пішучыя машынкі, практыкаваць правядзенне большасці мерапрыемстваў кі[illegible]іцтвам справамі Савета Міністраў БССР на [illegible]ай мове, расшырыць яе выкарыстанне супрацоўнікамі ўрадавага апарату, яго падраздзяленняў і службаў у штодзённым жыцці. І, нарэшце, пачынаючы з другой палавіны 1992 года, перайсці на вядзенне справаводства на беларускай мове.**

*МІЛАСЭРНАСЦЬ*

## АД ПАНІ МЭТЛАК

**Мінск з неафіцыйным візітам наведала жонка былога пасла ЗША ў Савецкім Саюзе пані Рэбека Мэтлак. Яна перадала дзіцячай анкалогіі ў Бараўлянах чатыры скрыні з антыбіётыкамі — дар амерыканскай кампаніі. Прэпарат "Супрэкс", сказала яна, прызначаны для дзяцей і мае шырокі спектр дзеяння. У ЗША адна ўпакоўка яго каштуе 2,5 тысячы долараў.**

*АФГАНСКАЯ АВАНТУРА*

## КНІГА ПАМЯЦІ

**733 хлопцы, прызваныя ў армію з Беларусі, не вярнуліся з афганскай вайны. Іх імёны ўвекавечыла Кніга Памяці, выпушчаная выдавецтвам "Беларуская савецкая энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі напярэдадні 50-й гадавіны пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У гісторыі афганскай вайны застаецца яшчэ нямала белых плям. Напрыклад, у архівах да сёння няма нават фатаграфій 54 загінуўшых. Пошук і збор дакументаў працягваецца.**

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*



**Першая партыя многафункцыянальных тэлефонных апаратаў выраблена ў мінскім ВА "Прамсувязь" у каапераціі з ганконгскай фірмай "Манутэк". Новыя апараты не ўступаюць лепшым сусветным узорам, і, калі спадабаюцца пакупнікам, выпуск іх ужо ў гэтым годзе будзе даведзены да некалькіх тысяч штук. У бліжэйшы час мяркуецца асвоіць чатыры мадыфікацыі апаратаў. Супрацоўніцтва беларускага прадпрыемства і фірмы "Манутэк" гэтым не абмяжуецца. У перспектыве — асваенне новых мадэляў тэлефонаў і тэлефаксаў.**

**НА ЗДЫМКУ: навінку — тэлефонныя апараты "Мэта" — дэманструе мантажніца прадпрыемства Галіна ФІЛІПОЎСКАЯ.**

*"Мы не выключаем такой магчымасці (уvядзенне ўласных беларускіх грошай), але толькі ў крайнім выпадку. Тут больш мінусаў, чым плюсаў.*

*Складанасці пачынаюцца не з таго, як надрукаваць грошы, а з таго, як замкнуць на іх увесь эканамічны абарот у рэспубліцы.*

*Па-першае, яго трэба будзе лакалізаваць. А гэта значыць мець свае таможні з усёй гаспадаркай, пагранічныя пункты, службы і [illegible]аведныя структуры па карэкціроўцы курс[illegible] іх грошай і да рубля, і наогул да ўсіх іншых валют.*

*А будучыня ж у развіцці ўсіх нацыянальных эканомік — за інтэграцыяй у адзіную эканамічную сістэму, якая дазваляла б найбольш эфектыўна выкарыстоўваць патэнцыял рэгіянальных эканомік у іх перапляценні і спалучэнні.*

*І галоўнае — за гэтай адзінай сістэм[illegible]авінен быць поўны кантроль з боку усіх партнёраў па адзінай эканамічнай прасторы.*

*Менавіта гэты варыянт найбольш прымальны. Іншая справа, што мы павінны прад'явіць усе аб'ектыўна выцякаючыя з гэтага патрабаванні як да Кабінета міністраў, так і да Вярхоўнага Савета краіны. Грашова-эмісійная палітыка цэнтра не павінна быць тайнай за сямю пячацямі. Мы ўваходзім у Саюз на правах суверэннай дзяржавы. Нам трэба мець усе магчымасці актыўна абараняць свае інтарэсы.*

*Тым больш, што мы на гэта маем не толькі эканамічнае, але і ўвогуле маральнае права. Рэспубліка ніколі не звярталася да цэнтральных органаў з эмісійнымі просьбамі. Наадварот, калі ўзяць, скажам, нават мінулы, надзвычай цяжкі год, і то замест эмісіі ў нас было скасавана з абароту грашовай наяўнасці больш як 200 мільёнаў рублёў.*

*Але калі нашы патрабаванні да цэнтра не ўвянчаюцца поспехам, то мы будзем вымушаны, як бы гэта цяжка ні было, актыўна ўзяцца за стварэнне сваёй, аўтаномнай валюты".*

*(З інтэрв'ю В. КЕБІЧА, Старшыні Савета Міністраў БССР газеце "Звязда").*

*АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ*

# СВЕТ ДАВЕДАЎСЯ ПАЎПРАЎДУ

Катастрофы, роўнай чарнобыльскай, свет, бадай што, не ведае. На вялікі жаль, сапраўдных вынікаў гэтай бяды свет таксама пакуль не ведае, таму што праўда старанна замоўчваецца людзьмі, зацікаўленымі ў гэтым.

Журналіст Аляксандр Крыжаноўскі ў газеце "Знамя юности" каменціруе міжнародную сустрэчу вучоных, якая не так даўно адбылася ў венскім аддзяленні ААН. Вельмі сціпла і павярхоўна асвятлялася гэта падзея ў савецкай прэсе, намнога больш увагі ўдзялілі ёй сродкі масавай інфармацыі Захаду. Чаму так адбывалася? Забарона з даклада Міжнароднага кансультацыйнага камітэта "Міжнародны Чарнобыльскі праект" была знята 21 мая 1991 года. І адразу замежныя агенцтвы апублікавалі сенсацыйныя паведамленні, накшталт тых, што ніякіх доказаў павелічэння выпадкаў анкалагічных захворванняў няма. "Новое русское слово", што выходзіць у Нью-Йорку, са спасылкай на МАГАТЭ паведаміла: "Вынікі чарнобыльскай катастрофы 1986 года былі моцна перабольшаны... савецкія вучоныя ў цэлым былі задаволены, што справаздача МАГАТЭ пацвердзіла іх уласныя вывады..." І гэта тое выданне, якое разам са сваімі шматлікімі заходнімі сабратамі пяць гадоў сцвярджала, што Саветы ўтойваюць вынікі аварыі.

У паўднёвых раёнах рэспублікі, што найбольш пацярпелі ў час чарнобыльскай катастрофы, нарадзілася ідэя правядзення незалежнай экспертызы, якую вырашана было правесці пад "дахам" МАГАТЭ. І была зроблена ракавая памылка, бо гэта міжнародная арганізацыя — ведамства, надзвычай зацікаўленае ў перспектывах развіцця атамнай энергетыкі і яно вельмі зацікаўлена ў тым, каб адбяліць ядзерную энергетыку, адначасова не скампраметаваць аўтарытэт. Фактычна, злачынцу далі магчымасць даказаць сваё алібі, забяспечыўшы ўсім неабходным. На працягу двух апошніх гадоў наша навуковая грамадскасць, прэса проста ігнаравалі той факт, што ў свеце рэгулярна праводзіліся міжнародныя канферэнцыі, дзе выразна прасочвалася ўстаноўка МАГАТЭ на згладжванне вынікаў Чарнобыля.

Маніпуляцыямі са статыстыкай спрабуюць "супакоіць" і мільёны людзей ва ўсім свеце, якія прымаюць нашу чарнобыльскую бяду блізка да сэрца. І робіцца гэта, на жаль, не без поспеху. Вывады "незалежнай" экспертызы падхапіў не толькі друк заходніх краін. Старшыня Савета Міністраў БССР Вячаслаў Кебіч ужо атрымаў пасланні ад некаторых лідэраў краін, мяркуемых спонсараў, у якіх адкрыта гаворыцца аб тым, што яны звязваюць памеры дапамогі з вынікамі экспертызы. А толькі па папярэдніх даных, эканамічны ўрон, нанесены рэспубліцы, склаў 100 мільярдаў рублёў, амаль 10 нацыянальных гадавых бюджэтаў.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ў Вене ўкраінскімі і беларускімі вучонымі была зроблена спроба паставіць пад сумненне заключэнні экспертаў. У канцы канферэнцыі ў сумеснай заяве было сказана, што яны разумеюць прычыны, якія прывялі "да недастатковасці атрыманых экспертамі даных для адэкватнага адлюстравання ў вывадах і рэкамендацыях праекта", звярталася ўвага на яго супярэчнасці, выказвалася "занепакоенасць залішнім аптымізмам у адносінах прагнозу "аддаленых" вынікаў для здароўя насельніцтва" і, вядома ж, было заяўлена, што "органы аховы здароўя Украіны і Беларусі маюць дакладныя даныя аб павелічэнні выпадкаў рака шчытападобнай залозы, сардэчна-сасудзістай сістэмы, органаў дыхання і стрававання, розных запаленчых працэсаў", і, "такім чынам, вывады Міжнароднага чарнобыльскага праекта не могуць быць прызнаны канчатковымі". Толькі чаму ў канцы, чаму пастфактум? Бо ёсць, хоць і адзінкавыя, але выдатныя прыклады аператыўнасці. Яшчэ 22 мая, у самы разгар прэзентацыі даклада ў Вене, якая так добра асвятлялася нашымі замежнымі калегамі, знаходзячыся на другім кантыненце ў Нью-Йорку, зрабіў заяву далёка не вучоны — старшыня Савецкага фонду міру Анатоль Карпаў. Сутнасць яе: нельга разглядаць даны праект з пункту гледжання пераацэнкі сітуацыі, таму што гэта выкліча небяспечныя вынікі.

Але тым не менш свет даведаўся, што савецкія вучоныя "ў цэлым былі задаволены...". Захад пакуль яшчэ не дзеліць нашых вучоных на беларускіх, украінскіх, расійскіх. Для яго яны — савецкія. Дэлегацыя ж СССР была прадстаўлена: 6 і 7 чалавек адпаведна з Украіны і Беларусі (ад МАГАТЭ было 48) і 30 з "Цэнтра".

Вена — ужо гісторыя. Вынікі экспертызы абнародаваны і пайшлі вельмі шырока "працаваць" ва ўсім свеце. Мала таго, што навуковаму аўтарытэту нашых нацыянальных вучоных нанесены моцны ўдар, мала таго, што скароцяцца магчымыя памеры эканамічнай дапамогі пацярпеўшым рэспублікам, але і толькі-толькі стаўшай на шлях суверэнітэту Беларусі, члену ААН, нанесена і палітычнае паражэнне. Барацьбы з вывадамі "незалежнай" экспертызы не пазбегнуць. Пакуль мы не можам і не павінны ісці па шляху жорсткіх ацэнак, катэгарычных нязгод з вывадамі "незалежнай" экспертызы, не даказаўшы адваротнага, але прынятая праграма ліквідацыі вынікаў Чарнобыля павінна застацца законам для нашага ўрада. Чакаць, што навука канчаткова вывяць і дакажа прамую сувязь радыяцыйнага фактара з вынікамі для здароўя людзей нельга. Занадта вялікая цана памылкі.

*АРТЫСТЫ З ЗША*



**З цікавасцю праслухалі брэстаўчане выступленне хрысціянскага ансамбля "Манарафа", што прыехаў з ЗША. У яго ўваходзіць вядомае ў эміграцкіх колах трыо ў складзе Жоржа Давідзюка, Паўло Хадневіча, Алеся Вераса. Іх бацькі — выхадцы з Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. У песнях, што прагучалі на ўкраінскай, рускай, англійскай мовах, услаўлялася асоба Ісуса Хрыста.**

**НА ЗДЫМКУ: выступае трыо ў складзе Ж. ДАВІДЗЮКА, П. ХАДНЕВІЧА і А. ВЕРАСА.**

# ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ СМЕРЦІ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

ціўніка, застаючыся з групай 30 чалавек. На трэці дзень немцы зноў колькасцю да батальёна пачалі бязлітасную контратаку пры падтрымцы 15 танкаў і адрэзалі Сапрыкіна з рэшткамі батальёна. Усе байцы біліся да апошняга патрона, натхняемыя стойкасцю свайго камбата. Таварыш Сапрыкін выклікаў агонь на сябе, калі кальцо немцаў звузілася да 20 метраў. Да апошняга дыхання знішчаў ворагаў, якія наступалі з усіх бакоў. Апошнія словы, перададзеныя Сапрыкіным па радыё: "Заканчваю работу, бывайце, таварышы, паміраю за Радзіму..." Смерцю героя загінуў капітан Сапрыкін, знішчыўшы сваім батальёнам за тры дні да палка нямецкай пяхоты. Яго подзвіг заслугоўвае найвышэйшай узнагароды".

А вось як я пачуў пра тое ж самае, але расказанае ўжо не мовай ваеннага дакумента, дзе ўсё апісваецца толькі ў трагічна-гераічным стылі. Уладзімір Сапрыкін у той таронтаўскі вечар расказваў пра гэта простай салдацкай мовай, дзе боль і пачуцці выветрыліся з часам, засталася толькі канстатацыя падзей. Канец 1943 года. Зіма. 33-я армія генерала Васілія Гардова вяла бai на Віцебскім напрамку.

— Цяжкія гэта былі бai, многа крыві пралілося на тым кавалачку зямлі, што ўтрымліваў наш батальён. Не памятаю ўжо, колькі дзён былі ў гэтым пекле. На дні па некалькі разоў той участак фронта займалі то мы, то немцы. Да таго азвярэлі, што ў палон не бралі ні мы, ні яны — расстрэльвалі на месцы. І вось у адной з контратак, дзе мяне цяжка параніла, немцы выбілі нашы часці і затрымаліся на даўжэйшы час на тым участку. Замацаваліся, схлынула, відаць, з іх крывавае апантанне. Сталі падбіраць раненых — і сваіх, і нашых, хаваць забітых. Знайшлі і мяне на дне акопа, хаваць хацелі, бо ляжаў труп-трупам, ды заўважылі, што быццам яшчэ жывы. Не дабілі на месцы, адправілі ў лазарэт... Пра гэта я даведаўся, як ачуняў. Так што ўсё адбылося па законах вайны, вельмі проста.

Доўга распытвалі мы Уладзіміра Аляксеевіча пра бai пад вёскай Чырвоная Слабада, што ў Дубровенскім раёне, дзе больш за ўсё было выбіта людзей у вайну. Перад намі сядзеў далікатны, мяккага характару чалавек, тыповы рускі інтэлігент канца мінулага стагоддзя, выхаваны і адукаваны, якога вайна так пакалечыла і фізічна, і маральна. Яго жыццёвыя дарогі пасля таго боя, які быў апошнім для капітана Сапрыкіна, пралягаюць праз лазарэты і лагеры для ваеннапалонных, бясконцыя допыты і намаганні схіліць яго да здрады Радзіме — пайсці служыць у армію Уласава. Усё вытрываў Сапрыкін, не паддаўся ні на якія ўгаворы, сцярпеў усе пакуты ваеннапалоннага і дачакаўся Дня Перамогі. Яго вызвалілі саюзнікі. Цяжка хворы ляжаў ён у англійскім шпіталі, дзе яго знайшлі нашы "асабісты". Яны толькі чакалі, пакуль былы камбат акрыяе, каб адправіць яго ў Саюз. А там ужо дарога для палоннага вядомая — тысячы іх, паверыўшых уговорам агітатараў, вярнуліся дамоў і потым апынуліся далёка за Уралам.

І цяпер яшчэ ў нас ёсць людзі, якія лічаць былых ваеннапалонных, калі не ворагамі народа, то, прынамсі, грамадзянамі другога гатунку. А што казаць пра той пасляваенны час.

Сэрца Уладзіміра Сапрыкіна прагнула вярнуцца на Радзіму, але ён паслухаўся розуму і выехаў з Германіі ў Канаду.

Хто ён там быў? Перамешчаная асоба, чалавек без грамадзянства. Працаваў шафёрам, быў рабочым. І ўвесь час намагаўся выбіцца ў людзі. Па вечарах хадзіў у політэхнічны інстытут, стаў інжынерам, слыў добрым спецыялістам у вядомай канадскай фірме "Адмірал". Расказваючы нам пра сваю работу, Сапрыкін цяжка ўздыхаў: "Ведаю, як вы адсталі ў тэхніцы, асабліва электроннай. Увесь час ламаю галаву, як мне дапамагчы сваёй краіне. Але ж з вамі так цяжка наладжваць кантакты. Скажыце, навошта гэтая самаўпэўненасць: усё самае перадавое — толькі савецкае?!"

З таго вечара помню яшчэ дзвюх асоб, пра якіх найболей і найахвотней расказваў Уладзімір Сапрыкін, — пра свайго бацьку Аляксея Васільевіча і пра сваю дачку Марыю.

Сям'я не склалася ва Уладзіміра Сапрыкіна: ён ажаніўся з дачкой белаэмігранта. Разышліся, бо светапогляду прытрымліваліся розных. У ім усё-такі сядзеў камандзір [illegible]рвонай Арміі, яна была з той Расіі, [illegible] Сапрыкін называў белагвардзейскай. Жонка пераехала ў Злучаныя Штаты, забрала дачку. Марыя штогод прыязджала да бацькі на лета.

— Гэта для мяне самыя шчаслівыя дні, — казаў ён, — але і самыя нешчаслівыя. Жонка закладвае ў[illegible]чцэ такія погляды, якія я не прымак[illegible]сяц-два я выпрошваю Марыю, бы[illegible]ую бярозку пад маім акном, здаецца, ачышчу яе душу ад нянавісці да маёй Радзімы, а прыедзе праз год, бачу — майго мала засталося. Так і ваюю, так і змагаюся.

Паказваючы фатаграфію бацькі, усяго ў планках ордэнаў і медалёў, гаварыў: "Як я ганаруся ім і як баюся, што мой цень упадзе на яго. Герой грамадзянскай вайны, ён ваяваў і на гэтай. Паважаны чалавек. Сын яго загінуў на вайне героем. І раптам — вестка, што ён жывы, быццам хаваецца недзе..."

У пісьме да бацькі, адзіным пісьме, якое ўдалося адшукаць журналісту Ю. Дзмітрыеву і ветэрану вайны падпалкоўніку В. Дунаеву, ёсць такія радкі:

"Дарагі тата! Мне цяжка пісаць. Нестае слоў, каб перадаць да болю хвалюючае мяне пачуццё шчасця, якое ахапіла мяне пры вестцы аб табе. Не раз я хацеў даць знаць аб сабе, але ўсякі раз спыняўся на думцы: раптам атрымаю страшную вестку аб табе! Беручы пад увагу твой узрост і здароўе, я не мог не лічыцца з тым, якія вынікі можа мець для цябе вестка "з таго свету". Я поўны гордасці і шчасця, даведаўшыся ад савецкага прадстаўніка ў Канадзе, што ты жывы і здаровы. Інакш склаўся мой лёс: ненавісны палон і жыццё на чужыне... Зразумей і не асуджай маё невяртанне. Твой сын не здраднік Радзімы. Больш таго, думкі пра яе былі і застаюцца адзіным перакана괴нем у яго жыцці за мяжой..."

Страх прымушаў Уладзіміра Сапрыкіна ціха сядзець за мяжой, не падаючы пра сябе голасу, не ведаючы нават, што яго тут ушаноўваюць як героя. Таму, калі ў 1978 годзе да яго дайшла навіна, што Уладзімір Сапрыкін за подзвіг ля Чырвонай Слабады пасмяротна ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза, гэта ледзь не каштавала яму жыцця. Кволы здароўем, ён ледзь перанёс такі стрэс.

Кантужаны, з грудзямі, прабітымі наскрозь разрыўной куляй, Сапрыкін застаўся толькі ў памяці сваіх аднапалчан, сваіх блізкіх, свайго народа. Усе лічылі, што ён загінуў смерцю героя. І раптам: герой жывы, герой за граніцай, сярод патэнцыяльных нашых ворагаў і праціўнікаў у "халоднай вайне".

Мы запрашалі Уладзіміра А[illegible]еевіча наведаць Беларусь (хаця тады[illegible] былі ўпэўнены, што яго тут прымуць з хлебам-соллю, бо ведалі колішнюю філасофію тых, хто трымаў уладу: лепш такі герой мёртвы, чым жывы), раілі яму паехаць у Варонежскую вобласць, у роднае сяло Альхаватка. Сапрыкін дзеля ветлівасці згаджаўся і нібы да[illegible]яцанне, але не паехаў ні ў Мінск, ні [illegible]одныя яму данскія мясціны.

На другі год, калі мне давялося спаткацца з ім у Таронта, я спытаў без хітрыкаў, чаго ён баіцца. На дварэ ж ужо не 45-ты год. Але, відаць, моцна ў ім сядзела выхаванае ўсёй нашай сістэмай уяўленне аб патрыятызме, і ён адказаў мне таксама без хітрыкаў, шчыра:

— Думаю і вагаюся, ужо змучыў сябе гэтымі ваганнямі. Ну добра, вось я прыехаў. Іду ў сваю родную школу, якая носіць імя Сапрыкіна. А дзеці ў мяне і пытаюць: "Чаму вы, герой, жывяце там, на Захадзе?" Што мне ім адказаць?

Гэта была мая апошняя сустрэча з Героем. Не, Уладзімір Сапрыкін, грамадзянін Канады, быў яшчэ жывы (ён памёр нядаўна), не стала камбата Сапрыкіна — Героя Савецкага Саюза.

У тыя гады ў нас была своеасаблівая трактоўка тых людзей, якія жылі за мяжой. Калі некаму з маіх знаёмых, і разумных, здавалася б, людзей, я даводзіў, што сярод эмігрантаў за мяжой многа адданых патрыётаў, мяне абрывалі фразай: "Калі яны такія патрыёты, то чаму сядзяць там, а не вяртаюцца дамоў?" Нас так выхоўвалі, што патрыёты могуць быць толькі тут. Значыць, і героі — таксама толькі тут.

Па прадастаўленню тагачаснага міністра абароны СССР маршала Усцінава, які сам пораху і не нюхаў, Вярхоўны Савет цішком адмяніў Указ ад 3 ліпеня 1944 года. Не было ніякіх тлумачэнняў, нават ніякай хронікі ў прэсе. Можа таму, што не мелася на тое і ніякіх падстаў. Па заключэнню следчага аддзела КДБ СССР, якому было даручана разабрацца ў справе Сапрыкіна, ніякіх кампраметуючых даных на Уладзіміра Аляксеевіча няма. А што КДБ можа разабрацца, сумнення няма.

Проста тады нязручны быў такі герой, не ўпісваўся ў ідэалагічныя каноны савецкага патрыятызму. Вось і выкраслілі яго імя. І школа, дзе вучыўся Уладзімір Сапрыкін, не носіць больш яго імя.

Толькі ў Мінску, у мемарыяльнай зале, у полымі вечнай памяці, высвечваюцца літары "Сапрыкин В. А." Але не будзем ставіць гэта ў заслугу нашым уладам і партыйным кіраўнікам. Відаць, гэта проста іх "недосмотр", страта ідэалагічнай пільнасці.

Калі на пачатку 80-х гадоў у БелСЭ выходзіла новае выданне кнігі пра Герояў Савецкага Саюза, я пацікавіўся ў рэдактараў, ці ёсць у кнізе прозвішча Сапрыкіна, ці не знялі, бо чуў я, быццам быў Указ аб пазбаўленні яго звання Героя, мне адказалі: "Не, не знялі. Наконт Указа нічога не ведаем, каб што было, — паведамілі б з Масквы".

Сёння аднапалчане Сапрыкіна задаюць пытанне: "Чаму адмянілі Указ? Чаму пазбавілі Бацькаўшчыну аднаго з яе герояў? Ці не кашчунства здзіраць з грудзей франтавіка заслужаную і здабытую ім у крывавым бai ўзнагароду?"

Хочацца, каб імя Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Сапрыкіна засталося ў нашай памяці не па недагляду, а свядома, з пераканання, што ніякі подзвіг Чалавека ніколі адменены быць не можа.

Вацлаў МАЦКЕВІЧ.

*ЧАЛАВЕК НА ЗЯМЛІ СВАЁЙ*

# ПАТРЭБНЫ АСАБІСТЫ ТРАКТАР

**Неяк мы не задумваемся над пераменамі, што адбываюцца ў нашым жыцці. Хто мог гадоў дваццаць назад займець уласнага каня? Коней звялі, быццам за непатрэбнасцю. А селяніну, лічылі, наогул нічога асабіста не патрэбна, — аддай усё ў калгас. Памятаю, як за няздадзены ў калгас стары хамут на Навагрудчыне чалавека прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці і яшчэ ярлык начапілі — "кулак". Так і па сёння, нават на дзяцей тая мянушка перайшла.**

**Цяпер усё ж іншая справа: маеш умовы і ахвоту каня трымаць — калі ласка, ніхто не забараняе. Але ў апошні час людзі на сталёвага каня сталі паглядаць — усё-такі тэхніка. Тут, праўда, дзяржава, як можа, дапамагае. Гадоў пятнаццаць назад прадпрыемствы краіны распрацавалі мадэль мінітрактара. На жаль, ён пакуль не вельмі зручны: не хапае магутнасці, невялікая хуткасць, мала манеўраны. У апошнія гады стала добрай традыцыяй прадаваць больш магутныя трактары. Хаця, вядома, не новыя. Такая склалася сітуацыя: трактары то прадаюць, але спісаныя. Як кажуць у народзе, на табе божа... І запчастак не дастаць, і з гаручым праблемы. Ды і не кожны селянін мае грошы, а яшчэ трэба і адпаведную навуку прайсці: трактар не конь. Праўда, спісаная тэхніка ўсё больш дастаецца былым механізатарам, у тых хутка машына набудзе "другое жыццё".**

**Вось калгас "Палажэвічы" Старадарожскага раёна, што на Міншчыне. Пенсіянер Аляксандр Сойка ўзяўся апрацоўваць гектар зямлі. Навошта немаладому чалавеку гэта? Проста захацеў селянін, пакуль стае сілы, вырошчваць бульбу, адкормліваць жывёлу і для сябе, і на продаж. Таму і патрэбна зямля, каб кармы мець. За канём хадзіць цяжкавата, вось і папрасіў тэхніку. І для сябе выгада, і састарэламу суседу заараць агарод ці прывезці сена не адмовіш.**

**У "Палажэвічах" уладальнікамі трактароў, хай сабе і патрыманых, сталі Васіль Дроб, Міхаіл Аўчыннік і іншыя былыя механізатары.**

**— Купляюць тэхніку сяляне ахвотна, — каменціруе гэты факт старшыня калгаса Міхаіл Чачуха. — Той жа трактар каштуе меней за каня. Шкада толькі, што раённае кіраўніцтва адмоўна ставіцца да нашай ініцыятывы. Не бачыць, якую выгаду мае калгаснік, набыўшы тэхніку. Ды і калгас мае капейку, калі прадае трактар.**

**Што ж, некалі высокае начальства гэтак жа адмоўна глядзела і на продаж коней калгаснікам. Няхай пройдзе крыху часу — сітуацыя, відаць, зменіцца. Хоць са скрыпам, але новае мысленне, як мы гаворым, адужае старыя стэрэатыпы.**



**НА ЗДЫМКУ: пенсіянер калгаса "Палажэвічы" Міхаіл АЎЧЫННІК ля асабістага трактара.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**




33

— Мне здаецца, гэта не вецер шуміць, гэта іграе віяланчэліст "Песьню Трубадура" Чайкоўскага, — сказаў Тугоўскі. Ён успомніў Бацькаўшчыну, успомніў, як на адным канцэрце прафэсар кансэрваторыі іграў на віяланчэлі калісьці "Песьню Трубадура". Успомніў, што тады ў гэтых гуках віяланчэлі яму пачуўся чалавечы голас, плакаўшы горкімі сьлязамі, і яму паказалася, што валяцца лісты, агаляюцца дрэвы, з кожным новым акордам апускаюцца рукі... "Астральны чалавек" не прамовіў ні слова. Ён зяўнуў, выцягнуў руку з-пад кучы коўдраў, але зараз жа схаваў яе: было зімна ў альтане. І замест адказу ён пачаў дэклямаваць "Брацьцяў-разбойнікаў":

Нас было двое:

Брат і я...

Тугоўскі ўслухіваўся ў словы, вымаўленыя сьмешным галіцыйскім акцэнтам, і параўніваў палажэньне "брацьцяў-разбойнікаў" з сваім. Дзіўная аналёгія! Усё, што казалі яны, увесь іх пратэст проціў жыцьця, людзей і іх мяшчанскіх радасьцяў так быў блізкі яго сэрцу...

Цяпер ужо ён ня мог без агіды глядзець на людзей у лакірках, у фраках, сытых і чырвоных, задаволеных і сьмяючыхся. Ён гатоў быў выхапіць нож і нанясьці ім рану, як разбойнік з вялікай дарогі.

Часамі ён думаў: "Чаму? Адкуль у яго такая нянавісьць да людзей, задаволеных жыцьцём. Няўжо ён гатовы зрабіць казарму для ўсіх і забараніць усім сьмяяцца, няўжо ж ён павінен адняць ад іх вопратку, калі на ім вісяць лахманы... Хто вінны гэтаму? Сацыяльныя варункі?.. Несправядлівая капіталістычная сыстэма?.. Бог, стварыўшы гэтую сыстэму, ці ён сам, ня маючы сілы

34

палепшыць жыцьцё, як іншыя?" І пакуль "астральны чалавек" дэклямаваў "Брацьцяў-разбойнікаў", ён успамінаў пад шум ветра, гуляўшага па мёртвым садзе, успамінаў пад гукі "Песьні Трубадура" сваё жыцьцё. Ён пачынаў разумець, што гэтая нянавісьць да сучаснага ладу жыцьця, да задаволеных людзей радзілася ў яго нават не цяпер, а ў дзяцінстве, у цёмным падвале каменнага дому, з матчынай песьняй над яго калыскай. Яна радзілася, гэтая нянавісьць, у яго сэрцы і разам з ім таму, што над сабой і навокал сябе ён чуў іншыя песьні. Над ім, над цёмным склепам жыла сям'я Загорскіх, у пакоях якой штодня гучэў раяль. Ён заходзіў толькі часам у гэтыя вялікія, пышныя пакоі, у якіх пахла асаблівым прыемным пахам, шчакатаўшым нэрвы, праходзіў, чапляючыся за фартух маткі, прыносіўшай вузёл вымытай бялізны...

Матка яго была прачкай у Загорскіх, і яна заўсёды прыводзіла свайго Пётру ў надзеі, што вучыцельніца — сама пані Загорская — пагладзіць на яго і дазволе пагуляць з яе сынам Янам. Звычайна так і бывала. Маладая, прыгожая, уся прапахшая парфумамі, пані Загорская выходзіла да Тугоўскай, лічыла бялізну, а потым брала маленькага Пётру за падбародак...

— Іш які прыгажун падрос? — казала яна.

— Так, панічка, расьце, — падцьвярджала — шчаслівая Тугоўская, складваючы рукі на падале. — Расьце мне дапамога...

— Так, падрасьце — дапаможа, — казала Загорская. — Дык пакіньце яго пагуляць з маім Янам...

— Ах, дзе там, панічка, ён вам набрудзіць толькі, наробіць шкоды, — адмаўлялася Тугоўская...

35

— Ну што там, пакіньце... Ён сам потым зайдзе дахаты. Гэта ж на адным двары...

— Ды ён зайдзе, — згаджалася шчасьлівая Тугоўская. — Ну, дзякую вам, — і з радасьцяй глядзела, як маладая, прыгожая вучыцелька адводзіла яе сына за руку ў іншыя пакоі... Цэлы новы сьвет адчыняўся хлопчыку Пётру!.. Ах, колькі там конікаў, мядзведзяў, аўтамабіляў, стрэльбаў, розных прыгожых кніжак, малюнкаў, кветак... Як хочацца яму ўсё пазнаць, усё абмацаць сваімі рукамі, прылажыць да свайго языка — пакаштаваць ці праехацца праз увесь пакой... Але яму гэта не даюць!..

— Ня руш, — крычыць Янка Загорскі, аберагаючы сваю ўласнасьць, і б'е Пётру па руцэ. Ён не задаволены, што плябей Пётра ўвайшоў у яго пакой патрыцыя і яшчэ рухае бруднымі рукамі рэчы.

— Ян! — крычыць Загорская. — Ня трэба біцца! Гуляйце з Пётрам добра...

— Ён рухае мой аўтамабіль, — адказвае Янка. Матка замоўквае і выходзе з пакоя. Яна таксама прызнае за сынам права ўласнасьці.

Ян садзіцца ў аўтамабіль — разваліваецца, бы дырэктар фабрыкі.

Пётра з вінаватым відам глядзіць на яго і датыкаецца хоць ціханька маленькім пальчыкам да тоўстых шынаў, да бліскучай паліраванай паверхні аўтамабіля...

— Гу-гу-гу, — гудзіць Ян і ляціць праз увесь пакой, круцячы нагамі. Пётра ляціць за ім бокам, увесь час стараючыся не адстаць ад аўтамабіля. Ён сьвішчыць, падпіхівае і стараецца падпіхнуць рукамі ляцячую машыну хоць ззаду, але Ян горда адпіхівае яго. Пётра нейкі час скакае, але ўсё

36

цішэй і цішэй і потым сумна спыняецца ў кутку. Ён, напэўна, думае, як дрэнна радзіцца пралетарыем... У яго маленькую душу закрадываецца нянавісьць да тых, хто мае маленькі ўласны дзіцячы аўтамабіль.

А што будзе, калі ён вырасьце? Што будзе, калі дзіцячая нянавісьць вырасьце разам з ім у помсту?

Праходзяць гады... На ім паяўляецца такая самая з жоўтымі галунамі і гузікамі форма рэаліста, як і ў Яна Загорскага. Але згоды няма паміж імі. Роў паміж двума проціглежнымі сьветамі не засыпаны. Ян Загорскі рэдка размаўляе з Тугоўскім і рэдка гуляе з ім, як роўны з роўным — хоць яны і сядзяць разам у адной клясе. Ён здаецца, наўмысьля хоча падкрэсьліць сваю перавагу, калі на вялікай перамене купляе сабе шклянку гарбаты і катлеты, а Тугоўскі не мае нават капейкі, каб купіць сабе "жулікаў"... Яму прыемна, што Тугоўскі забіваецца ў кут і толькі глытае сьлюнкі. Колькі сьмеху і радасьці дастаўляе яму мінута, калі інспэктар рэальнай школы прыходзе і заяўляе, што Тугоўскі на адной хвіліны к можа заставацца ў школе — за няўзнос платы. Тугоўскаму не даюць нават магчымасьці дасядзець да канца лекцыі, яго гоняць, як праступніка, як хворага дрэннай хваробай, перадаюць швэйцару ў залатых галунах, каб той са злосьцяй мог бы зачыніць за ім дзьверы.

Хто ведае, колькі разоў ён плакаў, прытуліўшыся да белай, бясчулай сьцяны казённай рэальнай школы...

Колькі разоў сьмяяўся за яго плячыма швэйцар!

Апошні раз (гэта было ўжо перад самай вайной), калі яго выгналі і ён прыйшоў, плачучы, дахаты, бацька сказаў:

37

— Ну, сынок, як хочаш! Грошай у мяне няма: больш вучыць я ня маю сілы...

Пётра плакаў, ня еў нічога, маліў бацьку, але нічога не дапамагала. Нарэшце ксёндз, вучыўшы ў рэальнай школе, зжаліўся і заплаціў за яго за паўгода. Так Пётра давучыўся да канца году і быў пераведзены ў другую клясу нават з пахвальным лістом.

Вучыцелька Загорская ня без зайздрасьці рабіла ўвагу свайму сыну Яну:

— Вось, Ян, ты просіш асобнага пакоя вучыцца: табе ўсё перашкаджае... Паглядзі на Тугоўскага. Ён жыве ў падвале, і ў яго там разам і спальня, і заля, і сталовая, і кабінет.Назьбіраецца часам поўны падвал людзей, а Пётра заб'ецца ў куток і вучыцца. Затое глядзі: ён пераходзіць з клясы ў клясу з пахвальным лістом. Вось бяры з яго прыклад, Ян.

— Не хачу я браць прыкладу з прачкінага сына, — сярдзіта агрызаўся Ян і, бразнуўшы дзьвярыма, выходзіў з пакоя.

Нарэшце ўдарыў гром. Настала вайна. Па вуліцах места папаўзлі падводы з мірным жыхарствам, гружаныя розным скарбам. Інтэлігенцыя і панства выязджалі раней, пакідалі свае кватэры на дагляд дворнікам і незаможным.

Пані Загорская, між іншым, стаўшая ў гэты час удавой, прасіла Тугоўскую даглядзець за кватэрай:

— Мілачка, — казала яна, — вайна хутка скончыцца. Нашыя вайскі ўжо занялі Прусію. Хутка немцы запросяць міру. Мы едзем дзеля гэтага недалёка, у Вялікія Лукі. Думаю, праз месяц, ну, самае большае, праз паўтара мы будзем зноў на старай кватэры. Дык прыглядзіце за ўсім, мілачка.

38

Вось вам ключ. Будзьце, як у хаце. Я зусім пакладаюся на вашую чэснасьць.

Маленькі Пётра правадзіў паню на фурманцы на вакзал. На станцыі ў першай клясе Пётра згубіўся. Там было столькі афіцэраў, і яны так блішчэлі, што ў беднага Пётры пацямнела ў вачох. Пані Загорская да гэтага часу, седзячы з ім радам, прыемна размаўляла, але ў першай клясе яна стала старацца як мага хутчэй разьвітацца з ім. Ён і сам хацеў хутчэй выскачыць з гэтай праклятай клясы. І таму калі яна працягнула яму руку, ён, не памятаючы сябе ад радасьці, пацалаваў яе й кінуўся ўцякаць праз дзьверы.

Між тым вайна зацягнулася. Праз месяц, самае большае, паўтара, як думала Загорская, немцы ня толькі не запрасілі міру, але занялі цэлую паласу расейскай тэрыторыі.

Прыйшлося выязджаць з Вялікіх Лук, папаўшых ужо ў прыфрантавую паласу. Загорская прасіла перасьлаць рэчы і ўсе грошы ёй у Харкаў, куды едуць з сынам. Тугоўская пераслала грошы ў хуткім часе, але ёй самой прышлося падумаць, куды ўцякаць ад вайны. Была скліканая сямейная парада, на якой Пётра прапанаваў таксама Харкаў. Яму хацелася паступіць у рэальную школу разам з Загорскім. Матка згадзілася з ім, і так большасьцей галасоў яны перамаглі бацьку, не жадаўшага нікуды ехаць з Бацькаўшчыны. У Харкаве трапілася спатканьне. "Прачкін сын" сеў на адну лаву з сынам вучыцелькі-дваранкі. Цяпер

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 26.

39

ужо не прышлося "прачкінаму сыну" плакаць пад сьценкай школы за няўзнос платы. Яго звальнялі поўнасьцей, як уцекача з Бацькаўшчыны. І вось — раптам рэвалюцыя. Асьвяжаючая навальніца пранеслася ў паветры, шмат сьмелых сэрцаў запаліла смагай волі і сьвятла. Тугоўскі ажыў, ён пачуў, што ў яго выраслі крыльлі. Ён хадзіў на мітынгі, хадзіў на дэманстрацыі. Арганізоўваў вучняў і насіў чырвоную стужку.

Але ня ўсе роўна віталі рэвалюцыю. Ён памятае: калі ішоў на Петраград з войскам Карнілаў, ён быў у цэлай клясе адзін. Сабраліся вучні ўсіх школ і пэдагогі. Ён сядзеў у ліку меншай грамады з чырвонай стужкай за сталом прэзыдыума. На сцэне — ён, "прачкін сын", "плябей". Загорскі з балькону пажыраў яго насьмешлівымі вачыма. Камісар прасьветы Украіны — Затонскі чытаў даклад аб адзінай працоўнай школе. Як толькі ён скончыў, пачуўся шум воплескаў: уся заля, нават частка пэдагогаў, вітала ідэю працоўнай школы. Раптам да гэтых воплескаў з таго боку балькону галерэі, дзе сядзеў Загорскі, пачуўся сьвіст на ўвесь тэатр. Затонскі, белы ад злосьці, папраўляючы пэнснэ на сваім мясістым носе, пасьпешна ўзышоў на кафэдру:

— Нас не запужаеце, — пачаў ён. — Мы ведаем, што гэта сьвісталі "папенькіны і маменькіны сынкі", але ў рабочай клясе ёсьць проціў іх вось што, — сказаў ён, выцягваючы з кішэні рэвальвер і глядзячы проста на галерэю. На момант уся заля замёрла...

Чулася, як цяжка дышуць людзі. Тугоўскаму здалося, што зараз Затонскі будзе страляць у натоўп. Але праз хвіліну ён зышоў пад магільнае маўчаньне.

40

Пачаліся прывітаньні і зноў даклады, як быццам нічога дрэннага ня было. Галёрка на гэты раз была спакойнай. Так скончыўся дзень адзінай працоўнай школы. І так памерла ў Харкаве старая школа, так ня стала гімназіі.

Потым сацыяльная рэвалюцыя стала паглыбляцца: у Харкаве пачалося забіраньне заложнікаў. Мала гэтага: у жахлівы мароз, якраз тады нябачаны ў Харкаве, "буржуі" былі сагнаны на пляцу перад саборам капаць магілы для ахвяр рэвалюцыі. У люты мароз, дмухаючы ў пальцы, разводзячы велізарныя кастры, напужаныя людзі бралі непрывычна кіркі і білі па замёрзлай зямлі, пад насьмешкі сабраўшайся таўпы. Але ня ўсе сьмяяліся.

— Далі бы лепш нам, безработным, пакапаць яму, — казалі з натоўпу рабочыя праходзіўшым патрулям: — Мы бы хоць зарабілі грошы. А то яны ня ўмеюць нават трымаць у руках кіркі. Так і за месяц нічога не выкапаеш.

Усе маўчалі. Адна толькі сацыял-дэмакратычная газэта "Наш Голас" пісала аб старым строі, перавярнутым дагары нагамі.

Праз некалькі дзён малюнак зьмяніўся: бальшавікі, напэўна, паслухалі безработных. "Буржуі" былі адпраўлены па турмах, а іх места занялі ўжо рабочыя, увазвёўшыя велізарную чырвоную урну з надпісамі: "Паўшыя за радавую ўладу".

Гэта урна заняла ўвесь пляц перад самым саборам і засланіла сабой чырвоны каменны дом, дзе зьмяшчаліся ўрадавыя установы. Але надоўга лёс судзіў ей красавацца. Ужо чуўся на поўдні гром гарматаў, ужо трашчалі кулямёты, ужо крок за крокам набліжаўся да Харкава Дзянікін. Харчоў нястала. Рынак памёр.

# III. СТО СУСТРЭЧ ЗА АКІЯНАМ





Дзённікаў у Амерыцы я наўмысна не вёў і цяпер вольны ад храналогіі тых трыццаці студзеньскіх дзён. У адзін з іх, даволі лагодны, сонечны, крыху паблукаўшы па кварталах Манхэтана, знайшоў чорны шкляны гмах "Кангрэс файнэншл карпарэйшн" і падняўся ажно на 32 паверх, хоць гэта ў параўнанні са славутымі небаскробамі-блізнятамі зусім невысока. Там, у адным з пакойчыкаў, спажываючы нешта накшталт пепсі-колы, працуе той самы хлопец, пра спеўны талент якога на Беларусі ходзяць легенды. Гэта Данчык. Без ценю заклапочанасці і нервавання ён то нешта пісаў, то гаварыў па тэлефоне, націскаў на кнопкі камп'ютэра. "Бог ты мой, — падумалася мне пра равесніка-земляка, якога ўжо здымаў у Мінску, — ён усё такі ж вытанчаны, элегантны, статны. Тая ж манера размаўляць, шчыра ўсміхацца. Той жа голас. І мова — чысцюткая, прыгожая". Але прыйшоў я сюды не да артыста, адно толькі імя якога ўскружвае галаву беларускай моладзі, а да сур'ёзнага спецыяліста сур'ёзнай кампаніі, і ўсяго паўгадзіны дазволена было мне на размову і здымкі і ніводнай хвіліны больш. "Тыповы амерыканец", — падумаў я пра Богдана, чые песні тым жа вечарам слухаў у гасцінным доме Андрусышыных.

Бадай, толькі Данчыку — нашчадку беларусаў-эмігрантаў выпала доля ласкі Бацькаўшчыны, прызнання ёю. А колькі там было і ёсць таленавітых, шчыра бескарыслівых, каму так і не прыйшлося зведаць гэтага добрага слова, нават самай звычайнай увагі. Хто падлічыць згаслыя зоркі навукі, мастацтва, святло якіх, напэўна, узбагаціла б нашу культуру. Цяпер, праўда, імёны некаторых, прызнаных там, і ў нас як бы рэабілітуюцца, прызнаюцца. Не-не, ды і пра Антона Шукелойця згадаюць па-добраму, і пра Янку Запрудніка не скажуць абразы, і Арсеньеву працытуюі Адзін з такіх — гіст к-даследчык Вітаўт Кіпель — стваральнік і кіраўнік Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. За плённую грамадскую дзейнасць ён стаў ганаровым грамадзяні горада Кліўленда. ва многім дзякуючы гэтаму рупліўцу, штогод у дзень абвяшчэння незалежнасці Беларусі — 25 Сакавіка — на гарадской ратушы Кліўленда вывешваецца беларускі сцяг —бел-чырвона-белы. У свой час Вітаўт Кіпель быў актыўным агітатарам на прэзідэнцкіх выбарах, і гэтым тлумачыцца наведванне Беларусі прэзідэнтам Ніксанам — як падзяка за падтрымку. Я сустрэў доктара Кіпеля ў славутым будынку 17/75 на Брадвеі, заклапочанага, крыху іранічнага, то з паперкамі ў руках (нешта адбіваў на ксераксе), то ў радыёстудыі. "О, гэта мой лепшы вучань", — неяк пры сустрэчы сказала пра Вітаўта пісьменніца Аляксандра Саковіч. І гэтым яна сказала шмат.

Дні і сустрэчы ўжо засталіся пражытымі і засведчанымі на фотастужках, наперадзе былі новыя дарогі і нечаканыя ракурсы. Катастрафічна не хапала часу да некага даехаць, з кімсьці паразмаўляць. А то і проста пастаяць на могілках, дзе спачываюць нябожчыкі пад беларускімі крыжамі. Адны пры сустрэчах трымаліся асцярожна, нешта недагаворваючы. Другія здзіўлена хвалілі: "Бач ты яго, па-беларуску гаворыць". Нехта прасіў: "Вернешся на Бацькаўшчыну, не палянуйся, з'ездзі ў маю вёску, сфатаграфуй". І шмат хто з болем у вачах казаў: "Будзем ратаваць вас ад бяды". Так гаварылі і святар, і лекар, і ўласнік завода, і паэт з мастаком, і беспрацоўны, і інжынер-будаўнік, і бібліятэкар, і цудоўны дзядзька Алег Дубяга. Так напэўна сказаў бы і 96-гадовы дзядок па прозвішчу Банкет, з якім не выпала нават пазнаёміцца: я спяшаўся, ад'язджаў, ён — царкоўны панамар — тэпаў на працу — маліцца за Беларусь.

Анатоль КЛЯШЧУК.

НА ЗДЫМКАХ: Антон ШУКЕЛОЙЦЬ; Аляксандр БАНКЕТ; Вітаўт КІПЕЛЬ; Богдан АНДРУСЫШЫН.





*ДА 150-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Элізы АЖЭШКА*

# КАРАЛЕВА ЖЫВОГА СЛОВА І ПАКУТЛІВАЙ ПРАЎДЫ



У ваколіцах Мілкаўшчызны на Гродзеншчыне існавала паэтычная легенда, што дзяўчынка нарадзілася ў тую маёвую ноч (6/VI/25/V — 1841), калі ў мілкаўскім садзе ўпершыню запеў салавей. Старыя людзі прарочылі ёй светлую будучыню. Сапраўды, яшчэ пры жыцці Эліза Ажэшка была залічана да класікаў польскай літаратуры, яе творы адзначаны той адметнай якасцю, якая ўласціва вялікаму мастацтву — радасцю пазнання, незвычайнасцю адкрыцця. На старонках яе раманаў, апавяданняў, аповесцяў польскае грамадства 60-80 гадоў пазнавала сябе, па-мастакоўску рэалістычна пісьменніца адлюстравала ў іх "раны сучаснага ёй польскага жыцця", імкнулася "несці святло" абяздоленым.

Асаблівае дачыненне маюць творы польскай пісьменніцы да беларускага чытача. Упершыню ў польскай прозе яна адкрывала незнаёмы мацярык — жыццё, духоўны свет прыгнечанага беларускага народа, як ніхто да яе, заглянула ў хату беларускага селяніна і, жахнуўшыся яго нядолі, сцвердзіла народную павагу да працы, духоўную прыгажосць і паэтычнасць светаўспрымання беларусаў.

Нарэшце, сваім маленствам, як і ўсім свядомым творчым жыццём, Эліза Ажэшка звязана са старажытным беларускім горадам Гроднам, яго наваколлем і вёскамі. Беларуская зямля шчодра дарыла яе таленту радасці і пакуты, суцяшала яе ціхай пяшчотай нёманскай прыроды, а народ, заняволены стагоддзямі, вучыў яе быць непакорлівай. За славай яна не гналася, хоць слава прыходзіла да яе праз пакуты. Лёс зацягваў тугія вузлы, калі творчасць станавілася адзіным фактам існавання і змагання.

Нарадзіўшыся ў багатай шляхецкай сям'і асветніка-"вальтэр'янца" Паўлоўскага, яна пасля смерці бацькі выхоўвалася ў манастырскім пансіёне Варшавы, а затым на семнаццатым годзе жыцця была выдадзена замуж за палескага шляхціца, удвая старэйшага за яе, Пятра Ажэшку. Пасля пышнага вяселля зімой 1858 года яна пераязджае ў маёнтак Людвінава (недалёка ад Кобрына на Брэстчыне). Тут яна бліжэй пазнаёмілася з побытам прыгоннага беларускага сялянства, неаднойчы бачыла яго цяжкую працу: "Я адчувала тады дзіўнае жаданне пайсці ў гэты туман, на гэтыя палі, падысці да гэтых цёмных, сагнутых, натруджаных у хадзе за сахою фігур..." Тут яе і застала нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863—1864 гадоў, якое пазней Эліза Ажэшка назвала "сваім універсітэтам".

Зусім маладая жанчына, ужо падрыхтаваная дэмакратычна настроенай моладдзю на чале з братам мужа Фларыянам Ажэшкам, стала актыўнай удзельніцай барацьбы супраць царскага самадзяржаўя. Яна дастаўляла партызанскаму атраду Рамуальда Траугута медыкаменты, харчаванне, трымала сувязь паміж атрадамі, а ў дні самых "тщательнейших" вобыскаў (як сведчаць архіўныя дакументы) хавала яго ў Людвінаве. Урэшце, рызыкуючы жыццём, яна дапамагла Р. Траугуту выехаць у Варшаву, дзе ён стаў апошнім дыктатарам паўстання.

Гераічныя падзеі часу вызначылі яе далейшае мастакоўскае служэнне радзіме і народу: "Усё гэта зрабіў са мной і ва мне год 1863. Калі б не яго молат і разец, мой лёс быў бы іншы і, відаць, я не стала б пісьменніцай".

Перажыўшы горыч разгрому паўстання, калі муж і ўсе блізкія былі сасланы ў Сібір, а маёнтак канфіскаваны, Эліза Ажэшка вяртаецца ў спустошаную Мілкаўшчызну. А з 1869 года пераязджае на пастаяннае жыхарства ў Гродна, дзе на працягу ўсяго жыцця знаходзіцца пад паліцэйскім наглядам.

З гэтага часу пачаўся яе пісьменніцкі подзвіг — напружаная праца над самаадукацыяй, жаданне стаць інтэлектуальна ўпоравень з векам, авалодаць дасягненнямі сусветнага мастацтва. Чытанне кніг з вялізнай бацькавай бібліятэкі, пераважна французскіх асветнікаў Вальтэра, Дзідро, Русо і інш., як і перыядычных польскіх, французскіх, рускіх выданняў, рассоўвала гарызонты правінцыйнага захалусця, спрыяла шпаркаму духоўнаму развіццю не па гадах сталай жанчыны.

Адначасова яна спрабуе пісаць, дасылае рукапіс у папулярны варшаўскі часопіс "Тыгоднік ілюстраваны". Трохі нечакана для яе самой з'явілася яе першае апавяданне "Малюнак з галодных гадоў" (1866), навеянае людвінаўскімі ўспамінамі пра голад прыгоннай вёскі.

Тэматычна багатая і разнастайная мастацкая проза пісьменніцы актыўна ўплывала на грамадскую свядомасць сваім гуманістычным пратэстам супраць усялякага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, бязмежнай верай у навуку, у чалавечы розум.

У васьмідзесятыя гады, час найвышэйшага ўздыму творчасці пісьменніцы, ёю былі створаны эпічны раман "Над Нёманам" (1887) і мастакоўскі цыкл твораў з жыцця беларускага народа: аповесці "Нізіны" (1883), "Дзюрдзі" (1885), "Хам" (1888), апавяданні "Рэха", "Тадэвуш", "На следстве", "Зімовым вечарам", "Раманіха" і інш.

Беларусь ажывае на старонках твораў у яркіх вобразах сялян-беларусаў, у малюнках нёманскай прыроды, у жанравых сцэнах беларускага побыту. А тэма "прыніжаных і пакрыўджаных" у бесчалавечна арганізаваным грамадстве стала іх драматычным стрыжнем. Вось лёс парабчанкі Хрысціны і яе двух сыноў (аповесць "Нізіны"), што жывуць у страшэннай галечы, абрабаваны панам і рознымі прайдзісветамі, — тыповая з'ява для беларускай парэформеннай вёскі. Судовыя працэсы па сялянскіх справах, якія праходзілі ў Гродне, а тым больш — побыт навакольных вёсак, вусна-паэтычная творчасць, якую пісьменніца самастойна збірала, каб глыбей ведаць жыццё і культуру беларусаў, давалі багаты матэрыял для сюжэтаў.

Вялікі поспех аповесці "Хам" быў абумоўлены гуманістычнай ідэяй — сцвердзіць героем жыцця чалавека з народа. Сама назва твора — гэта вострая іронія супраць нацыяналістычнай і саслоўнай фанабэрыі шляхецкіх вярхоў, якія лічылі беларускі народ "быдлам", "хамамі", людзьмі ніжэйшага гатунку. Спрэчку аб чалавеку і яго высокай місіі ў вырашэнні гістарычнага лёсу народа завяршала пісьменніца гэтым праграмным творам. Яе гарачыя сімпатыі да беларускага народа вызначылі выбар героя. Павел Кабыцкі — нёманскі рыбак, надзвычай моцная і цэльная натура, закаханы ў водны прастор і свабоду: "Сонца, вецер, вільготнае дыханне ракі пакрылі здаровым цёмным загарам яго прадаўгаваты, худы твар, асветлены ярка-блакітнымі вачыма з паважным сур'ёзным выразам. Павага гэта і роздум адчуваліся ў рухах яго высокай, зграбнай і дужай постаці".

Ён увасабляе магутныя сілы, духоўнае багацце і хараство беларусаў, у ім закладзены лепшыя рысы нацыянальнага характару. Працавітасць, сумленнасць, прыродны розум, цяга да асветы — вось што вылучае гэтага селяніна, які пакахаў Франку — разбэшчаную панамі, маральна скалечаную жанчыну з лакейскай псіхалогіяй зняvагі да простага чалавека. Дзякуючы сваёй знітаванасці з прыродай, нёманскі рыбак захаваў высокія этычныя прынцыпы, выпрацаваныя народам, застаўся філосафам-самавукам, каб думаць аб "пакутах свету". У цяжкіх выпрабаваннях ён паўстае моцным самаахвярным чалавекам, калі даруе Францы здраду, уцёкі з дому, выхоўвае яе сына, навучае яго грамаце. Яго вобраз дае ўпэўненасць у духоўнай перавазе народа над разбэшчанымі вярхамі ў пошуку сэнсу жыцця.

Таму нельга пагадзіцца з назвай гэтай экранізаванай аповесці, зробленай "Беларусьфільмам" да юбілею Элізы Ажэшка, — "Франка — жонка хама", дзе акцэнты перанесены на "салодкае жыццё" гераіні, пэўна, ва ўгоду сексуальным захапленням сучаснай кінематаграфіі.

Адначасова са стварэннем "беларускіх" аповесцяў Эліза Ажэшка захапілася вывучэннем вусна-паэтычнай творчасці і этнаграфіі беларусаў, ведаючы беларускую мову, рабіла ўласнаручныя запісы з вуснаў вясковых кабет. Яе паэтычныя нарысы "Людзі і кветкі на берагах Нёмана" (1888—1893) даюць уяўленне аб народным светапоглядзе, нацыянальным характары і культуры беларусаў, уключаюць шэдэўры вуснай народнай творчасці. Вопыт цэлых пакаленняў беларусаў адлюстраваўся, на яе думку, у лірычнай народнай песні, баладзе, у паэтычных назвах кветак і траў, у народнай медыцыне.

Рэдкія ўзоры беларускага фальклору па-мастакоўску ўключаны ў творы Элізы Ажэшка. Так, развіццё сюжэта аповесці "Дзюрдзі" заснавана на замове заклікання ведзьмы на агонь з асінавых дроў. Якраз на гэта асінавае кастрышча з песняй на вуснах і ахапкам пахучых зёлак і прыйшла "ведзьма" Пятруся, вяртаючыся з поля дому...

Падарожнічаючы па Гродзеншчыне, пісьменніца сабрала 228 назваў раслін, вядомых беларусам сваімі карыснымі ўласцівасцямі. Тут і лячэбныя: ад кашлю — цвінтарэй, ад колікаў у жываце — ліловы чабор, тут і "загартушка" (любізнік), каб прычараваць любімага і інш. Свой вядомы гербарый яна рабіла пад кіраўніцтвам вясковых жанчын-беларусак. Менавіта ў фальклоры бачыла Эліза Ажэшка выяўленне духоўнага багацця беларусаў, высока ўзняла іх самабытную культуру.

Заслугоўвае ўвагі і тое, што творы Элізы Ажэшка стаяць ля вытокаў беларускага прафесійнага тэатра. Драматычная інсцэніроўка "Рысь" паводле апавядання "Зімовым вечарам", зробленая В. Ластоўскім (Власт), была ў рэпертуары трупы І. Буйніцкага. Гэтым спектаклем адкрыўся ў 1920 годзе Беларускі дзяржаўны тэатр.

Азораны святлом яе гуманістычнага таленту і некаторыя запаветныя куткі Беларусі, у прыватнасці вёска Фларыянаў (недалёка ад Ляхавіч), дзе апошнія два гады жыцця адпачывала пані Эліза.

Гэты куток стаў адным з асяродкаў беларуска-польскіх культурных зносін, цэнтрам прыцягнення выдатных дзеячаў культуры пачатку нашага стагоддзя. Засталося вечнае — самая лірычная спавядальная кніга "Збор лістоў Элізы Ажэшка" (т. V), адрасаваная гаспадару фларыянаўскага маёнтка Тадэвушу Бохвіцу. Лісты выйшлі за межы асабістай перапіскі і сталі фактам літаратуры: "Папросту кажучы, у свае лісты пані Эліза ўклала, па крайняй меры, палавіну свайго таленту, — сцвярджае польскі пісьменнік Яраслаў Івашкевіч. — І калі некаторыя яе творы ўжо блякнуць, пакрываюцца імжой аддалення, — у лістах жыве, пакутуе, мысліць і стварае ўзвышаная, мудрая і добрая жанчына".

Не толькі эпісталярная, але і ўся лепшая частка літаратурнай спадчыны Элізы Ажэшка адрасавана беларускаму народу. Не выпадкова блізкі сябар пісьменніцы, беларускі паэт Францішак Багушэвіч, назваў яе ў дзень дваццаціпяцігадовага юбілею творчасці "каралевай жывога слова і пакутлівай праўды".

**Валянціна ГАПАВА.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Васіль СУПРУН**

### СЭРЦА СМАЛОЮ КЛЯКОЧА

І песні забытыя,
і смех стаў нязграбны,
і моладасць лысаю стала.
А колькі ж пражыта?
Дзе лёс той прывабны?
Дзе доля, што шмат абяцала?

На дроце калючым,
на кратах,
ў забоях,
на петлях этапаў крывавых
ашмоццем павісла жыццё маладое
пад зыкі канвойнай расправы.

Ад путаў няволі зняможаны рукі,
ад здзекаў і голаду вочы
глядзець развучыліся,
сэрца з панукі
варам-смалою клякоча.

* * *

Кожны верш — гэта боль, гэта крык
і благанне,
гэта вера ў сябе,
падмацоўванне сіл,
а часамі адчай
ад той восені ранняй,
што прывідам брыдзе
па краёчку магіл.

### НА СКРЫЖАВАННІ

На скрыжаванні шляхоў незямных,
крывых і гразкіх,
спыніўся хлопец,
надзеяй гнаны
ў шуканні ласкі.

— Куды падацца,
якой дарогай? —
пытаў у неба.
Адказ, на дзіва, пачуў з трывогай:
— Чуць сэрца трэба.

Яно найлепей табе падкажа,
на што ты здольны
і шлях жыццёвы
куды праляжа,
рабіць што вольны.

Але, напэўна, пакуль Айчына
ратунку просіць,
на кліч з нас кожны —
павер, хлапчына, —
спяшацца мусіць.

**Эдуард АКУЛІН**

***

Мой воз пакуль угору
вязуць гадоў валы.
Быў шчасны, бачыў гора
за гэны век малы.

Здаецца, толькі ўчора
крычаў валам: "Ну, гэй!" —
забыўшы, што пад гору
воз коціцца хутчэй.

### ТРАВЕНЬ

Зялёны месяц травень
мільгнуў і тут жа знік,
нібыта за дажджамі
прагледжаны цягнік.
Здаецца, толькі вось як
быў чутны яго рух...
Стаю. Навокал восень.
І семафор патух.

* * *

Выходжу з туману на голас.
На волю выходжу з сябе...
З зямлі нараджаецца колас,
удзячны вясновай сяўбе.

Прабіўшы труны шкарлупінне,
душа, як зялёны прамень,
увесну зямлю пакіне,
вітаючы ясны дзень.

Пакуль гаспадарлівы Сейбіт
абходзіць з сяўнёй палі,
і душам расці, і хлебу
на белай маёй зямлі.

### КАМЯНЕЦКІ СЛУП

Нябёсы з зорнага каўша
святло ліюць на Белавежу.
Тут прадзеда майго душа
замураваная у вежу.

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# А АБАРАНКІ Ж БЕЛАРУСКІЯ!

Пішу пра абаранкі, а сам успамінаю сваё дзяцінства, якое прайшло ў дзіцячым доме № 2 у мястэчку Парэчча, што на Гродзеншчыне. Прыгадваю, як дзетдомаўская павaрыха цётка Ліда частавала мяне сваім непаўторным ласункам — абаранкамі з бульбы. Пасля мне больш ніколі не ўдавалася пакаштаваць такіх. Пытанняў тады ў мяне, адкуль з'явіліся абаранкі, не было.

...А між тым у мінулым на Беларусі абаранкі былі такой жа звычайнай ежай, як у наш час бульба. Была ў мінулым і добрая звычка хадзіць у госці з нізкай самаробных абаранкаў. Але мы забыліся на тую добрую традыцыю, а таму і згубілі тое, што мелі. І напэўна таму славутасць нашых абаранкаў захапіў Валдай, праз які яны дайшлі да Санкт-Пецярбурга і Масквы. А потым і далей — на Урал і ў Сібір, Забайкалле і Далёкі Усход. Праз акіян і Аляску сталі яны вядомы і ў Амерыцы.

Шмат дзе давялося мне пабываць, і паўсюль прыходзілася частавацца абаранкамі, але лепшых, чым на Смаргоншчыне, не сустракаў.

У 1963 годзе я са сваім сябрам быў у городзе Смаргоні. Захацелі папіць вады і пастукалі ў адзін з дамоў. На ганак выйшла бабуля, дала нам напіцца і пасля гутаркі пачаставала хатнімі абаранкамі. Я запытаўся, ад каго яна навучылася гатаваць іх. "Ад сваёй бабулі" — быў адказ.

Але дзе ж усё-такі пішацца ці гаворыцца, што радзіма абаранкаў — Беларусь? Ёсць такая кніга, а напісаў яе вядомы вучоны з Масквы (а чаму не наш беларускі?), кандыдат гістарычных навук, былы геолаг, аўтар шматлікіх кніг па кулінарыі. У пазамінулым годзе яго кніга "Аб кулінарыі ад А да Я" выйшла ў мінскім выдавецтве "Полымя". Там на 18-й старонцы і можна прачытаць, што слова "абаранак" вядзе свой род ад дзеяслова "абварыць". Радзіма абаранкаў — горад Смаргонь у Беларусі, дзе з заварнога цеста ўпершыню пачалі рабіць вузкія жгуцікі і выпякаць з іх абваранкі, вырабы з абваранага цеста. Ім спачатку далі назву абваранaчкі, затым сталі зваць абаранкамі і, урэшце, баранкамі. Так што слова "баранак" — чыста беларускае.

Вялікім вынаходнікам у кулінарыі быў першы смаргонскі кухар абаранкаў. Шкада, што невядома ні яго імя, ні прозвішча. Калісьці ён зрабіў вельмі крутое (моцнае) цеста ў форме круглага колца ці авала і выпек з яго першыя абаранкі. Рэцэпт хутка разышоўся па людзях. Імя аўтара гэтай стравы згубілася.

Як робяцца абаранкі ў наш час: пшанічнае дражджавое цеста "напіраецца", гэта значыць "вымешваецца" да знікнення бурбалак паветра, раскатваецца ў жгут, з яго лепяцца колцы, якія варацца ў падсалоджанай вадзе, затым вымаюцца, падсушваюцца і пякуцца. Абаранкі гатуюцца з мукі вышэй[illegible] і 1-га гатунку з добрымі [illegible]ебапякарнымі вартасцямі, з дабаўленнем цукру, масла і іншых харчовых прадуктаў.

Цеста для абаранкаў рыхтуюць на прытворы (густой, добра выбрадажанай заквасы). Для надання цесту аднароднасці яго пракатваюць праз вальцы некалькі разоў, фармуюць, абварваюць кіпенем ці парай і выпякаюць пры 300°С.

Абаранкі, а іх яшчэ называюць і хлебнымі кансервамі, у нашай краіне гатуюць у вялікім асартыменце. У сваю чаргу абаранaчныя гатункі падзяляюцца на бублікі, абаранкі, сушкі. Асабліва шмат назваў існуе сярод абаранкаў — гэта здобныя, чаркізаўскія, славянскія, цукровыя, з макам, малочныя, ванільныя, лімонныя, яечныя, гарчычныя. Усіх не пералічыць. Няма толькі ніводнай назвы, якая б сведчыла пра іх беларускае паходжанне. Неверагодна, але факт. Хоць ёсць у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі вестка, што Смаргонь некалі славілася выпечкай абаранкаў.

Калі я быў у Смаргоні, неаднаразова пытаўся ў мясцовых жыхароў, адкуль пайшлі абаранкі. З чатырнаццаці чалавек ніводзін не сказаў, што жыццё абаранкам далі іх прашчуры, дала Беларусь.

Па ўсім свеце гуляюць зараз беларускія абаранкі — цудоўны булачны гатунак з заварнога цеста, закручаны кальцом. Шкада толькі, што землякі не ведаюць пра гэта.

М. МАЛІНОЎСКІ.



Лета.

Фота А. ВАЛЯНЦІНАВА.


## ЗАПРАШАЕМ АДПАЧЫЦЬ

Арганізацыя "ТЭХНАПРАВІС" праўлення таварыства "Веды" прапаноўвае адпачыць у пансіянаце "Радашковічы", размешчаным за сорак кіламетраў ад Мінска ў экалагічна чыстай зоне. Маляўнічыя лясы, рэчкі і ручайкі ствараюць выдатныя ўмовы для актыўнага індывідуальнага, а таксама сямейнага адпачынку. Пансіянат мае аднамесныя і двухмесныя нумары. Акрамя сталовай, ёсць кухня з электрычнай плітой, што дае магчымасць кансерваваць грыбы і ягады, якіх так многа ў навакольным лесе.

Да паслуг адпачываючых — тэлевізары, гасціная, аўтастаянка.

Кошт пуцёўкі на дванаццаць дзён 320 рублёў, на дваццаць чатыры — 620 рублёў.

У час адпачынку арганізоўваюцца экскурсіі, розныя культурныя мерапрыемствы.

Наша арганізацыя забяспечыць вам праезд ад Мінска да пансіяната аўтобусамі, а таксама забяспечыць білетамі на зваротны шлях.

Запрашаем прыемна адпачыць у нашым пансіянаце!

АРГАНІЗАЦЫЯ "ТЭХНАПРАВІС".

За даведкамі і пуцёўкамі просім звяртацца на адрас: 220005, Мінск, Ленінскі праспект, 44.
Кантактныя тэлефоны: 33-16-23, 33-17-03.
Факс (0172) 31-01-13.


МАЙСТРЫХА

**Не думала Дар'я Бельская пятнаццаць гадоў назад, што першая спроба інкруставаць саломкай няхітры сюжэт стане пачаткам плённага творчага шляху. Не ўсё адразу атрымлівалася. Ды і ўсур'ёз заняцца работай не было магчымасці, трэба было гадаваць дзяцей. Інкруставанне — занятак карпатлівы, не кожнаму па характару. І, мусіць, дапамагло Дар'і Ананьеўне тое, што да дакладнасці, цярплівасці прывучыла яе работа лабаранткі на Глыбоцкім кансервавым заводзе. Відаць, было ў яе моцнае жаданне ды здольнасці, і справа пайшла. Самае складанае, гаворыць Дар'я Ананьеўна, гэта скласці кампазіцыю будучай работы. Тут майстрыха многае пераняла ў свайго земляка Ф. Сухавілы — вядомага аўтара маляваных дываноў. І ў іх выяўленчай манеры многа падабенства. Чэрвень — час асаблівых клопатаў для майстрыхі. Толькі ў гэту пару можна нарыхтаваць саломку для будучых вырабаў. Для гэтага прыдатныя толькі самыя стройныя, залацістыя сцяблінкі. Сёлета ў ліпені ў Глыбоцкім Доме рамёстваў адкрыецца персанальная выстаўка Дар'і Бельскай — вынік яе карпатлівай, але любімай працы, якая дорыць радасць.**

**НА ЗДЫМКУ: Дар'я Бельская — майстар інкрустацыі саломкай.**



**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## У КУШЛЯНАХ, У ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА

Яшчэ адна добрая традыцыя набывае жыццё на роднай зямлі. На Смаргоншчыне штогод мяркуецца адзначаць чарговыя ўгодкі слаўнага сына Бацькаўшчыны, таго, хто адным з першых напамінаў сучаснікам і нашчадкам рабіць усё магчымае, каб не ўмёрла родная мова — Францішка Багушэвіча. Летась святкавалі тут 150-годдзе з дня яго нараджэння. Сёлета дата не круглая, але — хіба тое, што тычыцца нацыянальнага Адраджэння, вымагае толькі круглых дат?

Як і раней, з навакольных вёсак сабраліся на маляўнічай паляне тыя, хто шануе нашу мову, хто любіць паэзію славутага земляка. Людзі знаёміліся з экспазіцыяй музея, якая падрабязна і грунтоўна расказвае пра жыццё і творчасць Сымона Рэўкі з-пад Барысава, набывалі навінкі мастацкай літаратуры.

Пасля ж гучалі вершы і песні, віхурыліся агністыя "Лявоніхі" і полькі. Выступалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, госці з Мінска — пісьменнікі В. Дашкевіч, Я. Міклашэўскі, Г. Тумаш, даследчык жыцця і творчасці Ф. Багушэвіча У. Содаль.

Актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенні багушевічаўскага свята паэзіі прынялі прадстаўнікі мясцовых улад.

У. КРУК.

## АЎТАВАНДРОЎКА ПАД ЗНАКАМ «ПАГОНІ»

Адбылася вандроўка школьнікаў з Баранавічаў па гістарычных мясцінах Бацькаўшчыны "Сярэднявечная Беларусь". Прабег аўтакалоны пад бел-чырвона-белымі сцягамі і штандарамі "Пагоні" быў наладжаны клубам "Усходні", створаным пры Баранавіцкай СШ № 6. У вандроўцы таксама прыняла ўдзел беларуская суполка з яшчэ адной школы горада.

За некалькі дзён вучні пазнаёміліся з гісторыка-культурнай спадчынай Навагрудка, Любчы, Ліды, Вільні, Ашмянаў, Гальшанаў, Баруноў, Крэва, Стоўбцаў.

Найбольшыя ўражанні ва ўдзельнікаў пакінула Вільня. Тут на могілках Росы дзеці сталі сведкамі перазахавання праху Івана Луцкевіча. Яны ўсклалі кветкі, слухалі імшу.

## ПРЫЗЫ ЎРУЧАНЫ

Керамічны медаль з адлюстраваннем беларускага Ікаралятаўца стаў прызам Першага Усесаюзнага фестывалю аўтарскага кіно. Ён уручаны рэжысёру з Мінска Юрыю Гарулёву за дакументальны фільм "Выпадак з практыкі".

У старажытным Полацку, на радзіме рэжысёра-першаадкрывальніка Юрыя Тарыча, упершыню сабраліся пад адным дахам прадстаўнікі прафесіянальнага і аматарскага кіно з усёй краіны. Каб атрымаць пуцёўку на фестываль, патрэбна было толькі адно — ярка выяўлены індывідуальны характар работ.

Два журы — рэжысёрскае і кінакрытыкаў — прагледзелі каля ста стужак усіх жанраў.

Мультыплікацыйны фільм Сяргея Анутдзінава "Аменцыя" быў удастоены Гран-пры фестывалю з такой арыгінальнай фармулёўкай: "За вяселосць і адвагу ў часы страху і разброду".


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ



НАШ АДРАС
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 984.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12